


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 сакавіка 2001 года
№ 9 (306)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна



### Пад пагрозай звальнення

МАЛАДЗЕЧНА. Над дырэктарамі ААТ "Канфа", ААТ "Камбінат хлебапрадуктаў", ЖБВ і ААТ "Маладзечнажалезабетон" вісіць пагроза звальнення.
Гэтыя прадпрыемствы найбольш адстаюць па аб'ёмах прамысловай вытворчасці па выніках двух месяцаў 2001 года ад іншых. За невыкананне прагнозных паказчыкаў панясуць адказнасць яшчэ 5 кіраўнікоў. На момант здачы нумара ў друк мера адказнасці іх была яшчэ невядомая.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Школы аб'ядноўваюць з садкамі

ВАЛОЖЫН. З наступнага навучальнага года сярэднія школы у Сакаўшчыне і Дорах рэарганізуюцца ў школы–садкі. Цяпер школай і дзіцячым садком будзе кіраваць адзін чалавек.
У раёне ёсць падобныя школы. Адна з іх – у вёсцы Брылькі – трымала справаздачу. Праводзіліся адкрытыя ўрокі, экскурсіі па музеі баявой і працоўнай славы, круглы стол.
Брылькоўская школа–садок праводзіць уласную гаспадарчую дзейнасць. Спецрахунак школы папаўняецца за кошт продажу руж, якія школьнікі вырошчваюць у цяпліцы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### У горадзе з'явіліся новыя вуліцы

СМАРГОНЬ. У лютым ў Заходнім гарадку з'явілася некалькі вуліц. 21 дом падзялілі на 5 вуліц – Савецкую, Пагранічнікаў, Заходнюю, Ветэранаў і Перамогі. На вуліцах Пагранічнікаў і Ветэранаў па 2 дамы.
Апытанне насельніцтва паказала, што 34% не ўхваляюць нававядзенні, а 16% ініцыятыву падтрымалі. Цяпер ідзе перапраніска. Яна для жыхароў новых вуліц бясплатная.

**Павел МАКЛЮК.**

### Лепшыя рыбакі – дырэктары

МЯДЗЕЛ. Работнікі мясцовага аддзялення «Беларусбанка» спаборнічалі на возеры Нарач у падлёдавай лоўлі рыбы. Лепшага рыбака вызначалі ў пяці намінацыях–турах.
У большасці з іх першынстваваў дырэктар філіяла **Іван Мехавіч**. Ён і стаў абсалютным пераможцам, за што атрымаў галоўны прыз – вудачку. Навічкам ўручылі кнігі пра лоўлю рыбы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**





## Надвор'е на выхадныя

Субота, 3 сакавіка

**Мінск**
-2 – 11°С (уначы)
0 – -1°С (удзень)



**Вільня**
0°С (уначы)
2°С (удзень)



Нядзеля, 4 сакавіка

**Мінск**
-5 – -6°С (уначы)
2 – 4°С (удзень)



**Вільня**
-2°С (уначы)
5°С (удзень)



# Бывайце, лыжы ды канькі



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Дзятва рэгіёна развітваецца з зімой.
Фотарэпартаж са свята праводаў зімы глядзіце на 4 стар.

## Сёння ў нумары:



НАСТУПНЫ НУМАР нашай газеты выйдзе ў святочны дзень 8 сакавіка. А паколькі «Рэгіянальная газета» традыцыйна выходзіць па пятніцах, то і датаваць мы яго будзем 9 сакавіка.

**Рэдакцыя «РГ».**

■ ЗНАХОДКА СТАГОДДЗЯ

# «Каменьчыку» чатыры тысячы год

**МАЛАДЗЕЧНА–ВІЛЕЙКА. 14 лютага рабочы Вілейскага лесапункта Міхаіл Стрэж падчас работы на лесапавале каля Лазаўца знайшоў крамянёвую сякеру, узрост якой каля чатырох тысяч год.**

Міхаіл Стрэж выпадкова знайшоў "падазронага" выгляду каменьчык пад нагамі. Магчыма, яго вывернула трактарам. Ужо дома ён паказаў сваю знаходку Івану – сыну–пяцікласніку. Назаўтра той, відаць, падазраючы, што каменьчык не вельмі просты, праз тэлефонную даведку знайшоў нумар Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея. Патэлефанаваў туды і прапанаваў агледзець знаходку. Некалькі дзён таму ў аддзеле археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларусі пацвердзілі: знаходцы ад трох з паловай да чатырох тысяч год. Навуковую экспертызу правёў наш зямляк, археолаг **Міхаіл Чарняўскі**.

Унікальная сякера, хутчэй за ўсё, належала крывічам, якія насялялі ў той час нашую мясцовасць. Выкарыстоўвалася ў гаспадарцы. Крэмень, з якога выраблена сякера, мае шэры колер. Але менавіта гэты экземпляр пад уздзеяннем балота набыў малочнае адценне.

Сякера ўзятая на дзяржаўны ўлік, зафіксаваная ў "Кнізе паступленняў" і "Галоўнай інвентарнай кнізе музея". Імя **Вані Стрэжа**, пяцікласніка сярэдняй школы №5 Вілейкі, які прынёс сякеру ў музей, таксама застанецца ў гісторыі.

Цяпер у музеі ёсць дзве старажытныя каменныя сякеры. Першая знойдзеная каля вёскі Стахоўцы. Знаходка з-пад Лазаўца мае больш сталы век.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Ваня Стрэж з татам Міхаілам любяць гістарычныя кнігі. Сякеру эпохі бронзавага веку, якую знайшоў бацька, сын перадаў у Вілейскі гісторыка–краязнаўчы музей.

## Арэнда пад санітарным наглядам

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачасціліся выпадкі здачы ў арэнду вытворчых плошчаў суб'ектамі гаспадарання ўсіх формаў уласнасці арандатарам без узгаднення з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.**

Плошчы выкарыстоўваюцца для арганізацыі вытворчай дзейнасці, часта з грубымі парушэннямі санітарных нормаў і правілаў. Санітарная служба, не ведаючы пра месцазнаходжанне такіх вытворчасцяў, не ў стане ажыццяўляць кантроль за ўмовамі працы рабочых. А работа ў дрэнных умовах можа адмоўна адбіцца на стане здароўя.

У адпаведнасці з "Санітарнымі правіламі і нормамі для прадпрыемстваў і вытворчасцяў недзяржаўнай формы ўласнасці і індывідуальнай працоўнай дзейнасці", адміністрацыя прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў прадастаўляе ў арэнду плошчы для размяшчэння пры ўмове станоўчага заключэння тэрытарыяльных органаў Дзяржсаннагляду аб магчымасці іх размяшчэння. Парушэнне дадзенага палажэння цягне за сабой адміністрацыйную адказнасць, штрафныя санкцыі ў памеры ад 5 да 20 мінімальных заработных плат.

**Канстанцін ХАРХАЛЁЎ, загадчык аддзялення гігіены працы МРЦГіЭ.**

## Зачынілі магазіны

**СМАРГОНЬ. Па 1 мая зачыніпі магазіны ў вёсках Загор'е, Паніжаны і Старая Рудня.**

Прычынай такога рашэння райвыканкома сталі страты, што прыносілі гэтыя гандлёвыя пункты. І, адпаведна, адмоўна ўплывалі на агульныя фінансавыя паказчыкі работы райспажыўтаварыства.

Забяспечваюць вяскоўцаў таварамі раз на тыдзень аўтамагазіны.

**Павел МАКЛЮК.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

## Дзве смерці на вытворчасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку года на вытворчасцях горада загінулі 2 чалавекі (за ўвесь мінулы год быў толькі адзін выпадак).**

Адрасамі смерці сёлета сталі ВА "Камунальнік" і станказавод.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Адкрыўся новы цэх

**СМАРГОНЬ. Новы механічны цэх па вытворчасці навяснога абсталявання да мінскіх трактароў МТЗ–80, МТЗ–100, МТЗ–1221 адкрыўся на агрэгатным заводзе.**

Пакуль устаноўлена 17 станкоў, якія працуюць у 1 змену. У перспектыве ў цэху, які ўзначаліў **Іосіф Дудзінскі**, будзе працаваць звыш за 60 чалавек, у тым ліку, жанчыны.

Плануецца, штомесяц цэх выпусціць прадукцыі на 200 мільёнаў рублёў.

**Павел МАКЛЮК.**

# Хто бастуе, а хто і гандлюе

**Некаторыя рынкі краіны ў сераду не працавалі. Каля года прадпрымальнікі–гандляры ніяк не могуць дамовіцца з уладамі наконт таго, якія і ў якім памеры падаткі плаціць роднай дзяржаве.**

Арганізатары мерапрыемства паспелі заявіць, што "адбылася агульнанацыянальная забастоўка прадпрымальнікаў". Прычым адбылася яна, на іх погляд, "нягледзячы на супрацьдзеянне свабодных і дзяржаўных прафсаюзаў і дзяржавы".

Акрамя шкадавання, такія сентэнцыі нічога, на жаль, не выклікаюць.

Рынкі рэгіёна ў сераду працавалі ў звычайных рэжымах. Што лішні раз пацвярджае думку пра палітызаванасць падобных акцый – "на месцах" людзі не бачаць рэальнай дапамогі ад іх правядзення. Ці папросту баяцца "высоўвацца".

**Сямён РАБІНОВІЧ.**




Калгасны рынак Маладзечна, серада. Звычайны базарны дзень.

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 22 лютага | 1 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1238,00 руб. | 1245,00 руб. |
| Нямецкая марка | 575,06 руб. | 586,72 руб. |
| Літ | 309,42 руб. | 311,17 руб. |
| Расійскі рубель | 43,21 руб. | 43,50 руб. |
| Злоты | 301,58 руб. | 305,78 руб. |
| ЕЎРА | 1124,72 руб. | 1147,52 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1240 – 1250 руб. | 1260 – 1280 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.02 | 28.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6642 | 6711 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Селядзец, 1 кг | 1000 | 1300 |
| Рыс, 1 кг | 460 | 470 |
| Грэчка, 1 кг | 460 | 450 |
| Цукар, 1 кг | 555 | 570 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 660 | 650 |
| Маянэз, 200 г | 210 | 220 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1300 | 1300 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | 420 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 350 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 170 | 170 |
| Капуста, 1 кг | 170 | 150 |
| Лімоны, 1 кг | 1250 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 920 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 900 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 800 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 850 |
| Морква, 1 кг | 250 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 350 | 330 |

## Вынікі эканамічнага спаборніцтва

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком прэміраваў кіраўнікоў лепшых прадпрыемстваў горада па эканамічных паказчыках. Кіраўнікі 9 прадпрыемстваў–"прызёраў" атрымалі прэміі ад 10,8 да 72 тысячы рублёў.**

Сярод "вялікіх" прадпрыемстваў (колькасць работнікаў звыш за 100 чалавек) перамагло ВУП "Сатэр".

Сярод "малых" лідэр – ВА "Белпрамкультура", а сярод прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання наперадзе АП "Рамбыттэхніка".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Прамысловасць адстае ад плана

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2 месяцы аб'ёмы прамысловай вытворчасці, па прагнозах супрацоўнікаў гарвыканкома, складуць каля 98% ад леташняга. За студзень было 94%, а агульны план – 106%.**

На нядаўнім пасяджэнні выканкома першы намеснік старшыні **Яфім Ідэльчык** агучыў некаторыя лічбы. Так, сярэдні абласны паказчык аб'ёму прамысловай прадукцыі складае 107%. У Маладзечне 33% прадпрыемстваў – стратныя (у вобласці – 22%).

Ад пачатку года вырасла беспрацоўе. Доля беспрацоўных складае 2,7% ад працаздольнага насельніцтва (было 1,9%).

Нерэалізаванай прадукцыі на складах пыліцца 80% ад месячнага аб'ёму.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** указаў, каб па выніках I квартала сярэднегарадскі паказчык па аб'ёме прамысловай вытворчасці быў не меншы за 100%. Ён нагадаў кіраўнікам прадпрыемстваў пра недапушчальнасць даўгоў па зарплаце за студзень і параіў знізіць да наступнага пасяджэння выканкома колькасць гатовай прадукцыі на складах.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ВЫХАВАННЕ

## Колькасць малалетніх хуліганаў не змяншаецца

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась злачынстваў з удзелам непаўналетніх у горадзе стала меней. Аднак колькасць непаўналетніх злачынцаў застаецца пастаяннай.**

– Летась непаўналетнія здзейснілі 66 злачынстваў, што на 45 менш, чым у 1999 годзе. А з 1996 года колькасць непаўналетніх злачынцаў амаль не мяняецца – каля 60 чалавек, – гаворыць начальнік Маладзечанскага ГРАУС **Сяргей Кухарчык**.

Самая крымінальная сярод навучальных устаноў горада – вячэрняя школа. Летась 12 навучэнцаў здзейснілі 35 злачынстваў. Прычынамі начальнік ГРАУС бачыць недастатковую занятасць падлеткаў у вольны час, алкагалізацыю і няпоўныя сем'і, у якіх выхоўваецца большасць злачынцаў.

Загадчык аддзела адукацыі маладзечанскага гарвыканкома **Уладзімір Ляговіч** упэўнены, што ўсе леташнія выпускнікі ўладкаваныя, а 90% цяперашніх школьнікаў займаюцца ў секцыях, клубах і гуртках.

Злачыннасць сярод маладзечанскіх школьнікаў ніжэй за сярэднеабласны паказчык. Тым не менш, У. Ляговіч лічыць, што ў горадзе неабходна дадаткова ўводзіць вучэбна-забаўляльныя ўстановы. Асабліва гэта тычыцца "Лясных" і раёна Старога Места.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Канфіскавана 33 тысячы доляраў

**АСТРАВЕЦ. Амаль 33 тысячы доляраў ЗША затрымалі ў адзін дзень пагранічнікі ў пункце пропуску "Катлоўка". Грошы, не ўнесеныя ў дэкларацыю, спрабавалі правезці трое літоўцаў.**

Спачатку ў вадзіцеля аўтафургона "Вольва" знайшлі 2700 доляраў ЗША і 500 нямецкіх марак. Затым у абшыўцы аўтамабіля "Фольксваген" пагранічнікі выявілі 3400 доляраў ЗША. Але найбольш важкі сюрпрыз чакаў ахоўнікаў мяжы ў "Аўдзі–100", якая належала літоўцу. Крыху больш за 26 тысяч доляраў спрабаваў ён тайна перавезці праз мяжу.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Зброя, аўтамабілі і цыгарэты

**АСТРАВЕЦ. Аматара стралянiны, хуткай язды і пакурыць у асабліва буйных памерах выявілі на мінулым тыдні супрацоўнікі Смаргонскага міжрайаддзела Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі.**

Калі яны наведаліся дамоў да астраўчаніна, які зусім нядаўна служыў у ДАІ Астравецкага РАУС, то знайшлі зброю, цыгарэты і аўтамабілі.

Падчас вобыску канфіскаваны карабін "Сайгак" і 32 патроны да яго, газавы пісталет "Армініум", перароблены для стральбы баявымі патронамі. У гаражы аператыўнікі знайшлі аўтамабілі "Аўдзі–100" і "Нісан", а таксама 90 тысяч пачкаў цыгарэт імпартнай вытворчасці без акцызных марак.

У следства ёсць меркаванне, што аўтамабілі затрыманы ўкраў у Літве.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Разам з цыгарэтай згарэла жыццё

**МЯДЗЕЛ. У ноч на аўторак у доме ў вёсцы Новікі (Сваткаўскі сельсавет) узнікла загаранне. У выніку загінуў 56–гадовы мужчына.**

Прычына здарэння – курэнне ў ложку. Небарака вызначаўся гэткай звычкай – толькі афіцыйна дагэтуль было зафіксавана тры загаранні ад яго цыгарэты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Месцы размяркоўвае чалавек у чорным

**24.02 Белаўтасервіс (Наваполацк) – Металург-JP 3:2 (2:2)**

**Суддзі:** Мелянчук, Ярэц (абодва – Мінск).

**Галы:** (9), (15), (32); Сіткевіч (11, 12).

**Ход гульні:** 1:0, 1:2, 3:2.

**Склад:** Кіркіж; Гарнастаеў, Кузняцоў, Сіткевіч, Снятко; Гружэўскі, Казяк, Складаноўскі, Шаўчэнка; Агейчык, Бароўскі, Бахур.

Галоўны трэнер "Металурга-JP" **Сяргей Сафонаў** лічыць, што каманду адкрыта засудзілі. На працягу другога тайма, калі гаспадарам удалося выйсці наперад у ліку, арбітры не зафіксавалі прыкладна пяць фалоў з іх боку. У сітуацыі, калі **Аляксея Шаўчэнку** збілі ў цэнтры варатарскай пляцоўкі сапернікаў, 6–метровы пенальці не быў прызначаны. Кантралявалі час сустрэчы мясцовы прадстаўнік, а маладзечанцы вялі хранаметраж асобна і лічаць, што матч не быў дагуляны на цэлую хвіліну. Маладзечанцы падалі пратэст на недагуляны час і на неаб'ектыўнае, на іх погляд, суддзейства.

Каманды прадэманстравалі неблагі ўзровень гульні, аднак памылкі маладзечанцаў у абароне (якія нельга дапускаць камандзе, што прэтэндуе на чэмпіёнства) прывялі да прапушчаных мячоў. **Валянцін Гружэўскі** аддаваў пас **Ігару Кіркіжу**, а сапернік перахапіў мяч. Шаўчэнка пры розыгрышы вуглавога ўпусціў свайго падапечнага. Рашаючы гол праўеў **Сяргей Лагутка**, які збег ад **Віталя Казяка**. У выніку другая чацверка саступіла свой мікраматч 0:3.

Забіваў абодва разы **Аляксандр Сіткевіч**. Пасля розыгрышу вуглавога ён пацэліў дакладна пад перакладзіну, а са штрафнога прабіў у самую дзевятку. Такім чынам, першая чацверка згуляла мацней за сваіх візаві 2:0.

Не было ў складзе **Дзмітрыя Янеля** – выбіў тры пальцы ў мінулым матчы. Дэбютаваў **Дзмітрый Бароўскі** (1980 года нараджэння) з фарм-клуба ВСОШ-21.

БДПА – Энергетык 3:4, Дарожнік – Сімург 3:0, Гарняк – МАПІД 6:4, ЦКК – РТІ 8:1, Верас – МЭСР 10:4, Хемікс – Віцязь 8:2.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дарожнік | 17 | 13 | 1 | 3 | 89-50 | 40 |
| 2. Белаўтасервіс | 17 | 12 | 4 | 1 | 95-53 | 40 |
| 3. Сімург | 16 | 11 | 4 | 1 | 85-24 | 37 |
| 4. Хемікс | 17 | 11 | 4 | 2 | 93-45 | 37 |
| 5. Металург-JP | 17 | 11 | 4 | 2 | 68-40 | 37 |
| 6. Верас | 17 | 8 | 4 | 5 | 85-72 | 28 |
| 7. МАПІД | 17 | 8 | 3 | 6 | 84-59 | 27 |
| 8. ЦКК | 17 | 6 | 4 | 7 | 69-55 | 22 |
| 9. Гарняк | 16 | 6 | 1 | 9 | 79-109 | 19 |
| 10. Энергетык | 17 | 5 | 2 | 10 | 56-78 | 17 |
| 11. МЭСР | 17 | 4 | 1 | 12 | 52-89 | 13 |
| 12. Віцязь | 17 | 2 | 2 | 13 | 53-105 | 8 |
| 13. РТІ | 17 | 2 | 1 | 14 | 39-123 | 7 |
| 14. БДПА | 17 | 1 | 1 | 15 | 62-107 | 4 |



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**«Металург-JP» папярэджваюць: чэмпіёнства небяспечнае для вашага здароўя.**

**Бамбардзіры:** Лагутка (Белаўтасервіс) – 40; Дзядзюля (Дарожнік) – 38; Бічанкоў (ЦКК) – 23; **Янель** – 22.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІЖСЕЗОННЕ

**23.02 Маладзечна (дубль) – Забудова 3:4 (1:4)**

Маладзечна, СШ №5, снег. Галы: Антановіч (4), Ясюкевіч (75), Матусевіч (84); Мацюк (26, 28, 34), Ракса (40).

**24.02 Маладзечна – Дынама-Юні (Мінск, Д2) 2:3 (0:1)**

Стайкі, снег. Галы: Турчыновіч (58-пен.), Макрыцкі (80); (45), (70), (73).

**25.02 Маладзечна (дубль) – Смаргонь 2:3 (0:2)**

Маладзечна, СШ №5, снег. Галы: Відук (7), Шаблінскі (26), Селіванаў (65); Татун (55, 83).

Пераваліў за свой экватар міжсезонны час. Галоўны трэнер ФК "Маладзечна" **Людас Румбуціс** лічыць праведзеную трэніровачную работу досыць нармальнай. Хіба толькі адзін тыдзень выпаў з-за адначасовай хваробы 12 гульцоў.

Што тычыцца кантрольных матчаў, то былі сярод іх і добрыя, і не надта, хаця, натуральна, акрамя іх вынікаў, важнае значэнне мелі тыя задачы, што ставілі трэнеры перад падапечнымі. Пакуль маладзечанцы згулялі толькі супраць аднаго сур'ёзнага саперніка (бабруйчанаў), аднак на 5-7 сакавіка запланаваны ўдзел у турніры ў Асіповічах, дзе таксама будуць каманды з вышэйшай лігі БАТЭ (Барысаў) і "Ведрыч-97" (Рэчыца) плюс гаспадары са "Свіслач-Кроўлі". Пасля заканчэння турніру каманда працягне выходзіць на належны ўзровень спартыўнай формы, апошнія тыдні перад чэмпіянатам будуць прысвечаныя нагульванню аптымальнага складу.

Маладым дублёрам кантрольныя матчы прыносяць адчувальную карысць. Нельга адмовіць хлопцам у жаданні ды дбайнасці, але вучыць іх яшчэ трэба шмат і шмат. У нядзелю, у адрозненне ад пятніцы, падабралі да снега з ільдом прымальны абутак, што дапамагло дастойна супрацьстаяць дасведчаным смаргонцам. Хаця на звычайным травяным пакрыцці, напэўна, прыйшлося б куды цяжэй.

Пакуль яшчэ мала вядомыя чытачам "РГ" аўтары галоў **Яўген Ясюкевіч** і **Аляксандр Матусевіч**. Яны адпаведна 1984 і 1983 гадоў нараджэння. Смаргонцы запланавалі збор з 1 па 8 лютага. Тут ідзе цякучка галкіперскіх кадраў. Ужо няма ў камандзе Мядзведзева і Кліменкі, затое з'явіўся **Вячаслаў Канашэвіч**. Ён выступаў у вышэйшай лізе за пакінуўшае летась яе "Тарпеда-Кадзіна", а пачынаў у брэсцкім "Дынама". У 60 матчах прапусціў 129 галоў.

"Забудова", хутчэй за ўсё, возьме ўдзел у гродзенскім турніры на "Кубак аўтамабілебудаўнікоў". Восем каманд там будуць разбітыя на дзве групы. Чысцінцы, відаць, сустрэнуцца з "Нёманам" (Гродна, Д1), ФК "Лідай" (Д2) і ЗЛіНам (Гомель, Д2).

Пакуль каманда рыхтуецца да сезона, не надта бясхмарнай застаецца яе будучыня. Старшыня рэгіянальнай федэрацыі футбола **Альберт Дабранскі** лічыць, што створаны гэтай зімой клуб не мае права займаць у другой лізе месца леташняй "Забудовы". Наогул, ён выступае супраць таго, каб у складзе чысцінскай каманды былі пераважна прыезджыя футбалісты.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

## Прагнозы на матчы 1/8 фіналу асноўнага турніру «РГ»

| | Першы матч | Матч у адказ | |
|---|---|---|---|
| 1. Аякс – М | 2212121012 | 1222122111 | 1x2 |
| Мідлсбро | 21111112x1 | 112122x110 | 212 |
| 2. Факел | 22x220111x | xx12222112 | x21 |
| Ньюкасл Юн. | 22x2211222 | xx22xx2012 | 222 |
| 3. Ювентус | 22121012x2 | 2112222x11 | 222 |
| СК Лясныя | 221221x222 | 0222222112 | 221 |
| 4.Баварыя | 101111xx11 | 1x221xx111 | 1x1 |
| Мілан –Я | 1111111111 | 0111111111 | 111 |
| 5. Лінолеум | 201xx1x22x | 112112x111 | 222 |
| ФК МБГ–РОКІ | | | |
| 6. ФК БДУ | 1x12x11220 | 2x22x22112 | 1x2 |
| Котбус Энергія | 1111x1121x | 1120x2211x | 111 |
| 7. Гамбург | 1111x1120x | 112xx2211x | 111 |
| Спартак | 1111111111 | 0111111111 | 111 |
| 8. Топік–2 | 2012211122 | 2112222111 | 222 |
| Унтэрхахінг | 1111x1121x | 012xx2211x | 111 |

**Пераможцы пар трапяць у групавы турнір, дзе ўтвораць 2 групы па 4 каманды.**

## Прагнозы на матчы 1/4 фіналу суцяшальнага турніру

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Рапід | 111101121x | 112xx2211x | 111 |
| Пераменаў! | x11x111xx1 | 1102122xx1 | 112 |
| 2. ВЕА | 0x12x11x21 | x1x2x2211x | xx2 |
| Маладзечна–99 | 22x221x221 | 02xx22xx11 | 2x2 |
| 3. Фартуна–В | 1011111122 | 1122122111 | 11x |
| Ультрас | 21121x1221 | 21211x1x10 | 222 |
| 4. ФК С–Леоне | | | |
| ТПС | 101111xx11 | 1x221xx111 | 1x1 |

Чэмпіён у суцяшальным турніры вызначыцца па кубкавай сістэме.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**03. 03 14-00 Металург-JP – ЦКК (Светлагорск)**

+2=1-0 13-6. У першым крузе 5:3 (Сіткевіч – 3, Кузняцоў – 2) на выездзе.

■ ПЛАВАННЕ

МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі басейн "Маладосць" запрашае дзяцей і дарослых у групы аздараўленчага плавання (у дзённы і вячэрні час).

Т. у Маладзечне 53034, 53134, 54406.

**Табло**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**МАЛАДЗЕЧНА. Лёгкаатлет Ігар Фартунаў аднавіўся пасля крыўднай траўмы на Паралімпійскіх Гульнях у Сіднеі. На нядаўнім зімовым чэмпіянаце краіны сярод здаровых спартсменаў ён скокнуў у даўжыню на 7 метраў 19 сантыметраў і заняў другое месца.**

У сваім лепшым скачку Ігар не даступіў да планкі цэлую ступню, а ў іншых спробах улятаў на 7,40 (што дало б першае месца), але з заступамі. Вось дзе сказаўся недастаткова зрок.

На жаль, па вяртанні з Аўстраліі Міністэрства спорту і турызму пазбавіла Ігару грашовую стаўку, а са студзеня ён наогул быў звольнены. Што зробіш, вышэйшае спартыўнае кіраўніцтва лічыць інваспорт нейкімі фестывальнымі спаборніцтвамі, не разумеючы, што лепшыя спартсмены тут без асаблівых фармакалагічных дапамог дабіваюцца высокіх вынікаў. Вось і даводзіцца Фартунаву даказваць сваё майстэрства ў барацьбе са здаровымі канкурэнтамі.

Яшчэ двое прызёраў чэмпіянату маюць дачыненне да рэгіёна. 2 месца (5000 м) заняла **Аксана Васілеўская** (17.48,68), а 3–е) (3000 м з/п) – **Васіль Дзярачыц** (9.01,59). Абодва таксама з Маладзечна.

На спаборніцтвы ў Брэст ездзілі 10 прадстаўнікоў лёгкаатлетычнага клуба "Рэгіён", які аб'ядноўвае спартсменаў Маладзечна і Маладзечанскага раёна (таксама ёсць смаргонцы і мядзельчане). Першыя месцы занялі **Ігар Закрэўскі** (20 кіламетраў, узроставая група 45-49 год), **Ядзвіга Дыдзік** (10 км, 60-64), **Клаўдзія Догель** (10 км, 50-54), **Галіна Кавалёва** (10 км, 30-39).

■ КОННЫ СПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Этап Кубка Беларусі па конным спорце прайшоў у Палачанах. Асабістае першынство на маладых конях (4-6 год) аспрэчвалі прадстаўнікі шасці каманд. Мясцовы спартсмен Віктар Пятроў заняў трэцяе месца на Барыні пры вышыні бар'ераў 110 сантыметраў.**

Дарэчы, на нядаўніх спаборніцтвах у Ратамцы ён не ў першы ўжо раз выканаў нарматыў майстра спорту, і ў хуткім часе павінен атрымаць гэтае званне. Заўважу, яго старэйшы брат Сяргей таксама майстар спорту.

■ ГАРАДКІ

**13-19 лютага ў расійскім Ніжнім Ноўгарадзе 96 гарадошнікаў сабраліся на традыцыйны чэмпіянат Еўропы ў закрытых памяшканнях. З Беларусі адправіліся маладзечанцы Аляксандр Гарошка, Аляксандр Кулак, Саша Кулак, Генадзь Сушко, Аляксандр Філістовіч і Юрый Багмут з Бярозаўкі.**

У асабістых спаборніцтвах поспехаў не мелі. 1. **Васіль Духанін** (Расія, 114 бітаў) 2. **Аляксандр Мярзянаў** (Расія, 114) 3. **Іван Матавілаў** (Расія, 115)...16. Сушко (123).

Камандны турнір меў адмысловую сістэму, у ім бралі ўдзел 9 калектываў (сем расійскіх, па адным з Украіны і Беларусі). З трох груп па тры каманды кожная ў наступны этап выходзілі па дзве лепшыя. Нашы саступілі зборнай Урала 2:3, а перамаглі Чарапавец 3:0 ды пайшлі далей.

Цяпер ужо дзве групы па тры ўдзельнікі зноў вызначалі дзве мацнейшыя. Беларусы згулялі ўнічыю 2,5:2,5 і з Масквой, і з Поўднем Расіі, а ў паўфінале выйшлі на гаспадароў-ніжагародцаў. Паражэнне 1:3, а ў матчы за трэцяе месца тая ж нічыя з тымі ж масквічамі. Серыя пенальці да першай памылкі прынесла поспех беларусам. У фінале ніжагародцы перамаглі прадстаўнікоў Урала 3:1.

Перад гэтымі спаборніцтвамі ў Маладзечне праходзіў рэспубліканскі зімовы чэмпіянат. Сабраліся 25 лепшых беларускіх спартсменаў не толькі з Маладзечна, але і з Бярозаўкі, Мінска, Магілёва. 1. Сушко (119) 2. Філістовіч (128) 3. Багмут (131).

Добрых слоў за дапамогу заслугоўваюць дырэктары ДЮСШ прафсаюзаў (**Віктар Мазнёў**), СШ №2 (**Уладзімір Шпетны**), ЗАТ "Кэмпі" (**Барыс Лапко**), якія ўнеслі значны ўклад у з'яўленне ў горадзе пастаяннай гарадошнай пляцоўкі ў закрытым памяшканні на базе СШ №2. Адчувальна дапамаглі ў правядзенні чэмпіянату АТ "Маладзечнажалезабетон" (**Яўген Андрыенка**) і МП "Азон" (**Барыс Калядзёнкаў**).

Прапануем чытачам "РГ" рэйтынг лепшых гарадошнікаў свету за 2000 год. 1. Духанін (655 ачкоў) 2. **Уладзімір Палякоў** (Расія, 535) 3. **Мікалай Нікіцін** (Расія, 480)...7. Сушко (285)...22. **Аляксандр Карповіч** 23. А. Кулак 24-25. **Аляксандр Яршэвіч**.

Сёлета самае важнае спаборніцтва ў каляндары гарадошнікаў пройдзе ў Санкт-Пецярбурзе з 26 ліпеня па 2 жніўня. Яно называецца чэмпіянатам свету, куды прыедуць і нетрадыцыйныя ўдзельнікі – Фінляндыя, Швецыя, Германія, Казахстан, Кыргызстан.

А з 25 жніўня па 3 верасня Еўпаторыя прыме фестываль гарадошнага спорту, у рамках якога кантынентальныя Кубак сярод дарослых і чэмпіянат сярод юнакоў.

■ ФУТБОЛ

**Зменяць, напэўна, клуб Міхаіл і Уладзімір Макоўскія. З аўтсайдэра мацнейшай украінскай лігі палтаўскай "Ворсклы" яны мусяць перайсці ў "Закарпацце" (Ужгарад), дзе цяпер трэніруюцца.**

Гэты клуб ставіць перад сабою задачу выхаду ў вышэйшую лігу украінскага футбола і з'яўляецца неафіцыйным «фарм-клубам» кіеўскага «Дынама» (трэнеры і некаторыя гульцы менавіта адтуль).

На жаль, выхаванцы маладзечанскага футбола пакінулі пра сябе ў Палтаве не лепшыя ўражанні: быў канфлікт з галоўным трэнерам і выключэнне са складу з фармулёўкай "за невыкананне спартыўнага рэжыму".

**Матэрыялы падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

